# Рэцэнзіі



*С. М. Ходзін.* **Беларуская вёска ў міжваенны час: шляхі і формы савецкай мадэрнізацыі (1921–1939).** Мінск : БДУ, 2014. 240 с.

Даследаванне С. М. Ходзіна выканана на высокім прафесійным узроўні. У яго манаграфіі разглядаюцца праблемы жыцця беларускай вёскі ў 1920–30-я гг. Большасць даследчыкаў заўсёды спыняліся на пытаннях ваеннага камунізму, нэпа, калектывізацыі, якія адбываліся на Беларусі, але пры гэтым не звярталі ўвагі на працэсы развіцця і трансфармацыі жыцця сялянства, што потым паўплывалі на развіццё грамадства. Прапануемыя аўтарам аспекты вывучэння тэмы, як нам падаецца, з'яўляюцца новымі, і мы сёння можам сказаць, што беларуская гістарыяграфія мае сапраўднага даследчыка, які пераадолеў заганы мінулага і ўнёс уклад у сучасную гістарычную навуку.

Акрамя грунтоўнага аналізу гістарыяграфіі і крыніц па вызначанай праблеме, аўтар спыніўся на пытаннях дынамікі і форм савецкай мадэрнізацыі беларускай вёскі, якія належным чынам у даследаваннях не разглядаліся. Пры гэтым вельмі істотным стала яго імкненне прааналізаваць прычыны і змест палітыкі ўлад у адносінах да сялянства ў вызначаны перыяд, падкрэсліць значэнне мадэрнізацыі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Даволі важным з'яўляецца паказ трансфармацыі вытворчасці ў сувязі з пераходам ад палітыкі ваеннага камунізму да нэпа, бо ў гэты часназіраліся і развіццё кааперацыі, і стварэнне камун, калгасаў, і памкненне сялян пайсці на хутары і атрубы. Нам уяўляецца, што аўтар, даволі падрабязна прааналізаваўшы палітыку цэнтральных улад наконт дадзенай праблемы, слушна вызначыў гэту палітыку адносна кулакоў.

На нашу думку, важнай праблемай стала даследаванне працэсу кіравання сельскай гаспадаркай. Праблема заключалася ў тым, што гэты працэс звязаны з вырашэннем пытання нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва БССР у 1920-я гг. Справа ў тым, што асобныя рэгіёны краіны мелі свае асаблівасці і часам не ўключаліся ў працэсы мадэрнізацыі. Таму лічым вялікай заслугай аўтара істотны аналіз гэтай праблемы і цалкам адэкватныя высновы.

Вельмі важным момантам можна лічыць агляд розных інстытутаў кіравання сельскай гаспадаркай. Аўтар спыняецца на развіцці кааперацыі і шматлікіх яе формах: таварыствах па сумеснай апрацоўцы зямлі, калгасах, камунах і г. д. Пры гэтым ён падкрэслівае, што формы сельскагаспадарчай вытворчасці залежалі ад ступені падрыхтаванасці сялянства. Даволі істотным падаецца даследаванне сацыяльнай трансфармацыі беларускай вёскі ў вызначаны перыяд. Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская і савецка-польская войны істотна паўплывалі на дэмаграфічную сітуацыю: беларускі этнас, большую частку якога складала сялянства, стаў знікаць. У сувязі з гэтым выклікае павагу імкненне аўтара паказаць, наколькі было запатрабавана мясцовае насельніцтва і як яно падзялялася на розныя групы.

Вельмі важным стала даследаванне праблемы змен у формах вясковых паселішчаў і трансфармацыі традыцыйных сялянскіх інстытутаў. Аўтар звяртае ўвагу на формы землекарыстання ў дасавецкія і паслясавецкія часы, паказвае палітыку савецкай улады ў гэтым пытанні ў 1920-я гг. Даволі істотнай з'яўляецца яго выснова аб тым, што абшчыннае землекарыстанне не зусім адпавядала рэаліям таго часу і таму не атрымала шырокага распаўсюджвання.

Уяўляе вялікую цікавасць пытанне даследавання жыцця беларускай вёскі ў міжваенны перыяд. Можна было б пачаць яго з праблемы ўяўлення сялянства аб сваім быцці, аднак, як адзначае аўтар, яно было ў першую чаргу звязана з менталітэтам, з чым можна пагадзіцца. Лёс селяніна – гэта зямля! За яе ён заўсёды змагаўся. Таму мы можам падтрымаць выснову М. В. Доўнар-Запольскага, што гэта «самы каштоўны прадмет для беларуса». Аўтар даволі змястоўна распавядае пра гэта: прыводзіць цікавыя звесткі аб узаемаадносінах у сям'і, камуне, таварыстве па сумеснай апрацоўцы зямлі, калгасе, падкрэслівае, што мадэрнізацыя істотна паўплывала на стан беларускай вёскі і яе сацыяльную стратыфікацыю.

Адзначаючы цалкам станоўчыя моманты праведзенага даследавання, хочацца сказаць, што аўтар даволі стрымана падышоў да ацэнкі дзеянняў кіраўнікоў КП(б)Б, асабліва П. К. Панамарэнкі (гэты чалавек, бадай, як ніхто іншы, у найбольшай ступені вырашыў лёс беларускіх сялян у часы мадэрнізацыі). Тым не менш лічым праведзенае даследаванне добрым укладам у беларускую гістарычную навуку. Яно будзе карысным для ўсіх навукоўцаў, студэнтаў, якія плённа займаюцца праблемамі аграрнай гісторыі.

***Ю. Л. Казакоў***,
кандыдат гістарычных навук, дацэнт,
загадчык кафедры гісторыі Беларусі
старажытнага часу і сярэдніх вякоў
гістарычнага факультэта БДУ

***А. Г. Каханоўскі***,
доктар гістарычных навук, дацэнт,
загадчык кафедры гісторыі Беларусі
новага і навейшага часу
гістарычнага факультэта БДУ

